

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 30 (716)** **10 ЖНІЎНЯ 2005 г.**

# Усебеларускі паклон Ларысе Геніюш

6 жніўня ў Зэльве прайшоў шэраг мерапрыемстваў да 95-годдзя вялікай беларускай патрыёткі, паэткі і высокай душы чалавека Ларысы Геніюш. У аргкамітэт, які ўзначальвалі Пётр Краўчанка і Міхась Скобла ўваходзілі сябры Саюза пісьменнікаў, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны з Менска, а таксама сябры Зэльвенскіх і Лідскіх арганізацый ТБМ і "Партнёрства".

6 жніўня ў Зэльву сабраліся людзі, якія высока цэняць грамадзянскі вычын Вялікай Беларускі. Прыехалі дэлегацыі з Менска, Гародні, Беластока, Ліды, Слоніма, Свіслачы, Мастоў, Баранавічаў, Гомеля, Вілейкі, людзі з іншых месцаў.

На памінальную службу ў зэльвенскую Троіцкую царкву сабралася каля 150 чалавек. Адпраўлялі набажэнствы на беларускай і старарускай мовах аж чатыры святары.

Пранікнёныя словы святара пра хрысціянскасць натуры Ларысы Геніюш у некаторай ступені павінны былі згладзіць непаразуменне, што мела месца тут за дзень да імпрэзы, і ў выніку якога сябры клуба "Спадчына" не змаглі ўстанавіць на помніку таблічку з імем Ларысы Геніюш і словамі "Божа, барані Беларусь". Ад А. Белага і скульптара А. Шатэрніка запатрабавалі дазвол на ўстаноўку таблічкі ад мясцовых органаў улады, а як той дазвол возьмеш, калі і сам помнік без іх дазволу пастаўлены.

Аднак гэтае непаразуменне толькі ўзмацніла ўзнёслы пафас літаратурнай часткі імпрэзы, якая праходзіла каля помніка. Неба плакала над лёсам гнанай пры жыцці і гнанай пасля смерці вялікай дачкі Беларусі, а выступоўцы ў вершах, прозе, песнях выказвалі ўпэўненасць, што ўсё гэта не на век, што "100-ыя ўгодкі паэткі мы будзем адзначаць у оперным тэатры".

Выступалі паэты Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Міхась Скобла, дарадца чэшскай амбасады Герман Хромы, старшыня ТБМ Алег Трусаў, старшыня Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ Аляксей Пяткевіч, барды Вольга Цярэшчанка, Зміцер Сідаровіч, Галіна Ярашэвіч. Тут жа адбылася прэзентацыя кнігі эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш, "Каб вы ведалі", якая выйшла якраз да 95-годдзя. Укладальнік Міхась Скобла, фундатары Міхась Макей (Зэльва), Валянцін Дубатоўк (Гародня), Аляксандр Казулін (Менск).

Ад царквы удзельнікі імпрэзы накіраваліся на Зэльвенскія могілкі да магілы Ларысы і Янкі Геніюшаў. Тут адбылося жалобнае набажэнства і невялікая імпрэза, рэй у якой вяла Антаніна Хатэнка. Вянок да помніка Геніюшам усклалі Пётр Краўчанка і Герман Хромы. Гімн "Магутны Божа" завяршыў гэты дзень памяці нікім нескаронай жанчыны, сімвала беларускай нацыі. Дзень гэты яскрава паказаў, што нам не пагражае змрок бяспамяцтва. Мы памятаем і будзем памятаць сваіх вялікіх прашчураў. Сёння ў большасці сваёй заходняя Беларусь з'ехалася ў Зэльву, заўтра прыедуць у Свіслач да Каліноўскіх, усходнія рэгіёны збяруцца ў Полацк да Ефрасінні або ў Воршу да Караткевіча, у Вязынку да Купалы або ў Бычкі да Быкава, і так заўсёды і так усюды, бо пакуль жыве нашая памяць, датуль і жыве сама вольная і незалежная Беларусь, датуль жывём мы.

*Яраслаў Грынкевіч.*



*Слова мае старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны Алег Трусаў*



*Пачатак літаратурнай часткі імпрэзы абвяшчае У. Пузыня*



*Са сцягам ТБМ Баранавіцкая дэлегацыя*



*Сябры рэспубліканскай Рады ТБМ Віктар Сырыца (Баранавічы), Пётр Краўчанка (Менск), Аляксей Пяткевіч ды Павел Сіцько (Гародня)*



*Сустаршыні аргкамітэту Пётр Краўчанка, Міхась Скобла і дарадца чэшскай амбасады Герман Хромы*



*Малітва над магіламі Ларысы і Янкі Геніюшаў*



*Помнік не дачакаўся таблічкі*

# Свіраны, Свіраны...

*"Віленскі край, Свіранскі кут!*
*Заўжды з табой я ў думках тут,*
*Вясну жыццё я сустракаю.*
*І гімн-малітву прачытаю..."*
*(Ю. Гіль)*

Тут, у Свіранах, што на Віленшчыне 9(21) сакавіка 1840 г. нарадзіўся Францішак Багушэвіч.

Пры ўсіх цяжкасцях і складанасцях яго імя (класіка беларускай літаратуры) у Багушэвічавых Свіранах, якія знаходзяцца за 25 км. ад Вільні належным чынам ушанавана і гэтая справа працягваецца. Аўтару гэтых радкоў прыемна на душы, бо стараўся і ажыццявіў сваю задуму, каб ушанаваць памяць бацькі нашага Адраджэння – Францішка Багушэвіча, якому сёлета – 165-я ўгодкі з дня народзін.

У гэтым годзе выйшла кніжка Ул. Содаля "Святы куточак фальварак Свіраны" прэзэнтацыя якой адбылася пад час імпэзы ў Свіранах 28 траўня 2005 г.

Пра Ф. Багушэвіча неаднаразова паведамлялася ў "Нашым слове" ды і іншых газетах. Але не лішнім будзе зрабіць адпаведную інфармацыю і цяпер, бо рыхтуецца яшчэ адно мерапрыемства па ўшанаванні памяці паэта ўжо ў самой Вільні.

У канцы верасня г. г. плануецца ўстанавіць Мемарыяльную Дошку на вул. Арклю (Конскай), 20 на будынку бібліятэкі, а ў самой бібліятэцы стварыць куток паэта. На наступны год, магчыма, выйдзе і кніжка пад назовам "Ф. Багушэвіч у Вільні"...

Але вернемся ў Свіраны, на радзіму паэта. Назоў фальварка Свіраны находзіць ад слова "свіран", г.зн. невялікі будынак, пабудова для дабра, збожжа і дзе захоўвалі таксама саланіну, кумпякі ды іншыя харчы – сыр, масла. Туды нават зладзеям было цяжка залезці, бо дах умоцаўваўся яшчэ "закатам" з бярвенняў, а замок быў кавальскай работы з "сакрэтам".

Ул. Содаль у сваёй кніжцы "Свіранскія крэскі" паведамляе, што падчас музейнай экспедыцыі ў Свіраны ў 1989 г. на дварышчы тутэйшага гаспадара Ярмалковіча ён набыў адмысловы, кавальскай работы ключ, якім калісьці замыкалі замок на свіране, і цяпер з гонарам ён усім паказвае – ключ ад Свіранаў!

А я хачу дадаць, што ад такога ж свірана ў мяне ёсць кавальскай работы з "сакрэтам" замок, які цяпер захоўваецца ў "Засьцянковай хатцы ў Вашунове .

Такім чынам, ключ і замок у нашых руках! Напэўна па-гэтаму мяне і Ул. Содаля нешта злучае ў справе ўшанавання Ф. Багушэвіча.

Я жыву ў Вільні, а сп. Содаль - у Менску. Паміж намі дзяржаўная мяжа, але мы лістуемся, сустракаемся, дапамагаем адзін аднаму і робім агульную справу па ўшанаванні памяці Ф. Багушэвіча. Гэта радуе і цешыць.

...Свіраны цесна звязаны з Рукойнамі, якія ўпамінаюцца ў летапісе з 1435 г.

А вось у "Литовских епархиальных ведомостях" чытаем: "Имение Свираны (21 верста от Вильны) некогда принадлежало князьям Гольшанским. Часть Свиран, с фольварками Крошты и Шешоли, достались Константину Острожскому в качестве приданного, которое он получил за жёною своею Татьяной из князей Гольшанских. Эта часть Свиран, пожалованная в 1552 г. князем Константином Острожским Пречистинскому собору, отдана была Рутским в обмен на Руту". "...Другая часть тех же Свиран, состоявшая из ф. Жемойтели была пожалована в 1538 году епископом виленским Павлом Гольшанским недавно построенному виленским архидиаконом Иосифом Ясенским в Рукойнях костёлу с целью отвлечь окрестных (правоверных) жителей от посещения божниц... (так окрещены, конечно, православные храмы) и обращение их к истинно католической вере... Эта часть Свиран, т. е. ф. Жемойтели, по её отдаленности от Рукойни, доставлявшая незначительный доход Рукойнскому плебану, была продана в 1628 г. виленским епископом Естафнем Воловичем троицким базилианцам за 1400 коп. грошей..."

Такім чынам з Свіранамі звязана імя выдатнага беларускага ваяра, кашталяна віленскага, гетмана і сябра Рады ВКЛ Кастуся Астрожскага, які не адзін раз з сваім вайсковым ды дзяржаўным початам ездзіў свіранскімі дарогамі. У гэты кут ён пачаў стала наведвацца з 1509 г. пасля таго, як атрымаў частку свіранскай зямлі ў пасаг ад наваград-скага ваяводы князя Сымона Гальшанскага за дачкой Таццянай.

Гэты князь з дозвалу Вялікага князя Жыгімонта І пабудаваў царкву Святой Тройцы ў Вільні. А ў "Литовских епархиальных ведомостях" за 1885 г. змешчана вялікая публікацыя "Виленский Свято-Троицкий монастырь". Тут цэлая старонка прысвечана Свіранам. Высвятляецца, што Свіраны амаль да канца 30-х гг. 17 стагоддзя належалі Успенскаму Збору, які з даўніх часоў яшчэ называлі Прачысцінскай мітрапольнай царквой. У 1639 г. Свіраны перайшлі Троіцкаму манастыру. Віленскія базыліяне атрымалі іх узамен на маёнтак Рута Наваградскага ваяводства, хаця засталіся незадаволеныя такім абменам, бо Свіранам належала каля трох маргоў зямлі.

У Свіранах быў базыліянскі кляштар і каплічка, аб чым узгадваюць старажылы ды рэшткі чырвонай дахоўкі ад гэтых пабудоў.

А вось што запісана пра Свіраны ў "Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краёў" за 1890 г.: "...фальварак і казённы маёнтак над безымяннай ракой... адзін дом, шэсць жыхароў, млын. Сядзіба над ракой сярод альшанніку, магілы часоў 1812 г., калісьці ўласнасць Віленскіх базыліянаў, цяпер – урада"

Сапраўды, да 1863 г. Свіранамі валодалі айцы – базыліяне, пасля паражэння паўстання царскія ўлады ліквідавалі манастыр, а касцёл у Рукойнах быў ператвораны ў праваслаўную царкву. Фальварак Свіраны Рукойнскай воласці Віленскага павету на 37 дзесяцін зямлі належаў гэтай царкве аж да 1905 г.

Лічыцца, што ў свой час Багушэвічы арандавалі гэты фальварак аж да пераезду сям'і ў родавы маёнтак Кушляны ў 1846 г.

У Свіранах нарадзіўся не толькі Францішак, але і іншыя дзеці Багушэвічаў якія сыпаліся адзін за другім: Уладзіслаў (1835 г ); Анастас і Нарцыс, двойня (1836 г.); Ганна (1838 г.); Францішак (1840 г.); Валяр'ян (1841г.) толькі Апалінар нарадзіўся ўжо ў 1846 г. у Кушлянах.

На пытанне: "Якое дачыненне мелі Багушэвічы да Свіранаў?" – адказ дала ўнучка паэта Станіслава Тамашэўская. Яна так вытлумачыла: "Таму дзядуля (Ф. Багушэвіч) быў народжаны ў Свіранах, што яго маці паходзіла з тых мясцінаў".

Паэтава маці Канстанцыя паходзіла з роду Галаўнёў, дзяды яе былі ўніятамі. Дзядзька яе Андрыян Галаўня быў біскупам і ў першай трэці 19 ст. кіраваў Літоўскай уніяцкай епархіяй. Меў тытул аршанскага епіскапа.

Хрысцілі малога Француся ў Рукойнах, якія знаходзяцца за 7 км. ад Свіранаў. У касцельнай кнізе запісана: "Года Божага, тысяча васемсот саракавога, месяца сакавіка дзевятага дня ў Рукойнскім парафіяльным рымска-каталіцкім касцёле ахрышчана вадой і святым алеем дзіця па імені Францішак Бенядзікт".

Вазілі хрысціць Француся Багушэвічавы сваякі і суседзі – Фелікс Галаўня і Петранеля Пастаевіч. Другая пара кумоў-дзядзька Ігнат Пастаевіч і Тэкля Галаўня, ехалі за свецак. Хрысціў будучага паэта ксёндз Юзаф Мікуцкі. Была тады субота, месяц марац, высакосны год, вясновае раўнадзенства...

Гэта была пара агледзінаў пчолаў, як яны зімуюць. А 22 сакавіка – Саракі! З сакавіцкім жаўруком 1840 г. зазвінеў і галасок Француся, які і цяпер абуджае нас: "Не забывайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!" "Яна для нас святая, бо ад Бога данная"

Мы не забылі мовы, не забылі і нашага Песняра. Яго імя ўшаноўваецца, бо яно святое для нас, як і сам Францішак Багушэвіч.

Створаны ў Свіранах народны мемарыял у гонар паэта ды выпушчаныя кніжкі – сведкі гэтаму.

***"Зямля у нас цяпер святая,***
***Святым зрабіўся і Франусь.***
***Святы наш край,***
***святая мова...***
***Святая наша Беларусь.***
***Аман."***

***Юры Гіль,***
***старшыня ТБМ імя***
***Ф. Скарыны***
***Віленскага Краю, Вільня.***

## ЛІДАР ПАРТЫІ БНФ В. ВЯЧОРКА І ПАЛІТОЛАГ В. СІЛІЦКІ ЛІЧАЦЬ, ШТО ВЯШЧАННЕ НА БЕЛАРУСЬ НОВАЙ ПРАГРАМЫ "НЯМЕЦКАЙ ХВАЛІ" ПАВІННА ВЕСЦІСЯ НА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Лідар Партыі БНФ Вінцук Вячорка і вядомы палітолаг Віталь Сіліцкі выступілі з заявай наконт моўнай палітыкі Еўрапейскага саюза датычна інфармацыйнай прасторы Беларусі. Падставай для заявы стала рашэнне Еўракамісіі аб пашырэнні вяшчання на Беларусь радыёстанцыі "Нямецкая хваля" на рускай мове.

Як раней паведамляў БелаПАН, "Нямецкая хваля" выйграла тэндар на стварэнне альтэрнатыўнага радыёвяшчання на Беларусь, аб'яўлены Еўракамісіяй. Плануецца стварэнне штодзённай 30-хвіліннай праграмы на рускай мове з навінамі і інфармацыяй пра Беларусь, а таксама з краін Еўропы і еўрапейскіх установаў. Чакаецца, што трансляцыя новай перадачы пачнецца восенню.

"Такі падыход з'яўляецца вынікам поўнага неразумення працэсаў, што адбываюцца ў Беларусі, звязаных з адраджэннем беларускай дэмакратычнай нацыі, — гаворыцца ў заяве Вячоркі і Сіліцкага. — Следам за афіцыйнай прапагандай лукашэнкаўскага рэжыму еўрапейскія бюракраты спрабуюць насадзіць грамадскай свядомасці думку пра бесперспектыўнасць і фактычна неіснаванне попыту на беларускую мову сярод грамадзян Беларусі. Не былі ўзяты пад увагу ні досвед паспяховых беларускамоўных медыйных праектаў (такіх як газета "Свабода" і радыё "101.2"), знішчаных уладамі, ні вынікі перапісу насельніцтва 1999 г., згодна з якімі больш за тры чвэрці грамадзян краіны прызнаюць беларускую мову роднай".

"Яшчэ больш абсурдным", на думку аўтараў заявы, выглядае рашэнне аб вяшчанні на Беларусь расійскай рэдакцыяй "Нямецкай хвалі" — "людзьмі, для якіх Беларусь з'яўляецца ўсяго толькі пабочным заняткам і ад якіх нельга чакаць глыбокага ведання і разумення працэсаў, што адбываюцца ў Беларусі".

"Адраджэнне нацыянальнай самасвядомасці ёсць неабходная ўмова дэмакратызацыі любой нацыі. Неразуменне гэтага факта вядзе толькі да ўмацавання тэндэнцый, што садзейнічаюць умацаванню дыктатуры ў Беларусі", — падкрэсліваецца ў заяве.

В. Вячорка і В. Сіліцкі зазначаюць, што яны не выступаюць за выдаленне рускай мовы з беларускай медыйнай прасторы, а толькі пратэстуюць супраць палітыкі выдалення мовы беларускай. "Беларусы і беларускамоўныя грамадзяне маюць права слухаць навіны і на сваёй мове. Афіцыйны Менск штодзённа парушае гэтае права, практычна знішчыўшы беларускае слова на дзяржаўным ТБ і радыё. Сёння да гэтай палітыкі далучыўся і ЕС", — гаворыцца ў заяве.

Варта зазначыць, што супраць вяшчання новай праграмы "Нямецкай хвалі" на рускай мове выступілі таксама вядомыя дзеячы беларускай эміграцыі Івонка Сурвіла і Зянон Пазняк.

***Ірына ЛЕЎШЫНА,***
***БелаПАН.***




*"Белпошта" выпусціла маркаваны канверт да 850-годдзя Мазыра. Канверт беларускамоўны.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8. 08. 2005 г. у 11.30. Замова № 1356.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.